**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 7.53, 16.00, 8.07;
Віцебск — 7.49, 15.44, 7.55;
Магілёў — 7.42, 15.50, 8.08;
Гомель — 7.34, 15.53, 8.19;
Гродна — 8.09, 16.16, 8.07;
Брэст — 8.08, 16.24, 8.24.

**МЕСЯЦ:**
Маладзік 24 лістапада.

**ІМЯНІНЫ**
Міны, Віктара, Вікенція, Максіма, Сцяпана



# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

24 ЛІСТАПАДА 1992 г. аўторак, № 235 (22013)



## РОЗГАЛАС

### «МАЯ ХАТА З КРАЮ»

Працягваецца прызыў беларускіх юнакоў у армію, выяўляючы пры гэтым, што для некаторай часткі моладзі словы «патрыятызм» і «вайсковы абавязак» з'яўляюцца пустым гукам.

Так, з пачатку восеньскага прызыву на прызыўныя пункты Рэспублікі Беларусь не з'явіліся каля 3.600 хлопцаў (для параўнання: у час веснавога прызыву на зборныя пункты не прыйшлі больш за 1.300 чалавек), з якіх толькі некалькі дзесяткаў змаглі прадаставіць апраўдальныя дакументы.

Прычыны няяўкі астатніх высвятляюцца, аднак ужо зараз вядома, што 42 прызыўнікі наогул катэгарычна адмовіліся служыць, а лёсам 427 хлопцаў усур'ёз цікавяцца органы міліцыі.

І ўсё ж на фоне краін блізкага замежжа сітуацыя на Беларусі не самая горшая. У суседняй Расіі, па словах намесніка начальніка штаба расійскай арміі генерала Калеснікава, працэнт «адказнікаў» у час сёлетняга восеньскага прызыву ў буйных гарадах даходзіць да 90, а на перыферыі — да 30 працэнтаў.

### КАМУНІСТЫ МІНШЧЫНЫ: «ДАЛЕЙШАЕ ПРАМАРУДЖВАННЕ НЕМАГЧЫМА»

У суботу карэспандэнт «Звязды» праслухаў два даклады на мінскай абласной установчай канферэнцыі Партыі камуністаў Беларусі —аб бягучым моманце (Васіль Новікаў) і аб новай партыйнай праграме (Віктар Чыкін). У абодвух прагучала нямала цікавай інфармацыі. У вобласці сёння дзейнічаюць 21 раённая і 2 гарадскія арганізацыі камуністаў. На канферэнцыю ўсе яны, за выключэннем Стоўбцаў і Клецка, прыслалі сваіх дэлегатаў.

На Міншчыне зараз больш за дзве тысячы арганізаваных прыхільнікаў камуністычнай ідэі, а ўвогуле іх, на думку дакладчыкаў, намнога больш: людзі пакуль у разгубленасці. Але народ, як прагучала, абуджаецца ад спячкі і пачынае ўсведамляць, у якую багну яго зараз уцягваюць. Таму марудзіць, як і колісь, немагчыма. Ад камуністаў патрабуецца «беспощадная яростность мысли и предельная конкретность действий». Напрамак апошніх у асноўным ранейшы: за адмену рашэння аб прыпыненні дзейнасці КПБ, за ўзнаўленне вялікай дзяржавы і г. д.

Канферэнцыя прыняла, акрамя пастаноў па пазначаных у дакладах пытаннях, зварот да камуністаў і ўсіх працоўных вобласці, выбрала абласны камітэт партыі і яго палітсавет, які ўзначаліў Васіль Новікаў.

ПУНКТ ПОГЛЯДУ

## Пасля 10-дзённага тайм-аўта

### АДНАЎЛЯЕ СВАЮ РАБОТУ ПАРЛАМЕНТ РЭСПУБЛІКІ

Месяц работы парламентарыяў, калі браць па вялікаму рахунку, адных з нас задаволіў, другіх — расчараваў, трэціх... Трэція лічаць: можна (і трэба!) працаваць лепш. І яны, як мне здаецца, маюць рацыю больш за іншых, разам узятых.

Каля палавіны больш чым з 340 народных дэпутатаў я ведаю асабіста. Кажу гэта не дзеля таго, каб засведчыць сваё «ўваходжанне» ў вышэйшы ўладны эшалон, а толькі для таго, каб заручыцца верай чытачоў: чым жыве парламент Рэспублікі Беларусь ведаю не па чутках... Дзевяць з палавінай пасяджэнняў (палавіна — гэта цяперашняя сесія), праведзеных на балконе і за калонамі авальнай залы Вярхоўнага Савета (месцы гэтыя — для журналістаў і запрошаных у парламент), даюць мне права выказаць як свой пункт гледжання на цяперашнюю сітуацыю ў вышэйшым заканадаўчым органе дзяржаўнай улады, так і паразважаць над нашым сённяшнім і заўтрашнім жыццём...

Дзесятую па ліку сесію Вярхоўнага Савета чакалі з вялікім нецярпеннем. Чакалі ўсе: **выбаршчыкі і народныя выбраннікі, дэмакраты і былая партнаменклатура, апазіцыянеры і цэнтрысты, левыя і правыя...** Калі каго не «ўлічыў» у гэтым пераліку — няхай даруе: разабрацца цяпер «хто ёсць хто» — няпроста, ды,

(Заканчэнне на 3-й стар.).





## «Наша памяркоўнасць у дзяржаўных пераўтварэннях—вымушаная»

### З АДКАЗАЎ СТАРШЫНІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ С. ШУШКЕВІЧА НА ПЫТАННІ КАРЭСПАНДЭНТА АГЕНЦТВА РЭЙТЭР

**— Беларусь — суверэнная дзяржава. Што дала незалежнасць рэспубліцы, яе грамадзяніну?**

— Па-першае, незалежнасць дала магчымасць усвядоміць людзям тую гістарычную праўду, якая раней скажалася. Дала магчымасць чалавеку адчуць сябе нязмерна больш свабодным.

Па-другое, мы ўсвядомілі, як складана быць незалежным. Мы хочам жыць і працаваць на новай дэмакратычнай аснове, паставіўшы ў аснову асноў інтарэсы чалавека. Гэта патрабуе вельмі грунтоўнай распрацоўкі заканадаўства, забеспячэння яго сістэмнасці, несупярэчлівасці, правядзення ўласнай фінансава-крэдытнай палітыкі і г. д. На жаль, поспехамі, якія б станоўча адбіліся на жыццёвым узроўні насельніцтва, пахваліцца пакуль што нельга. Таму неабходна вельмі сур'ёзная прафесійная работа парламента і ўрада для дасягнення сапраўднай самастойнасці, дастойных форм існавання. Дабіцца гэтага няпроста. Сітуацыя ўскладняецца яшчэ і тым, што тыя сілы, якія кіравалі, выкарыстоўваючы нестабільнасць у эканоміцы, працягваюць дэзарыентаваць народ: «Глядзіце што творыцца, а пры нас жа было лепш».

**— Як можна ісці наперад, калі многія дэпутаты з'яўляюцца прадстаўнікамі тых сіл, супраць якіх вы цяпер выступаеце?**

— Наперад ісці можна. І я хачу, каб вы правільна зразумелі мае словы. Яны не азначаюць, што ў парламенце ёсць прадстаўнікі сіл, варожых народу. Я перакананы ў тым, што пераважная большасць парламентарыяў жадаюць дабра беларускаму народу. Іншая справа, што гэтыя сілы і іх прадстаўнікі самі былі ўведзены ў зман адной структурай і трэба з гэтага зману выходзіць.

І не думаю, што змена саставу Вярхоўнага Савета істотна змяніла б што-небудзь. Таму што высокакваліфікаваных палітолагаў, юрыстаў, людзей, якія добра арыентуюцца ў сітуацыі, у нас пакуль яшчэ мала.

**— Але як жа ўсталёўваць рыначную эканоміку, калі і сярод парламентарыяў нямала яе праціўнікаў?**

— Паўтаруся: тыя, хто выступае супраць, не арыентуюцца ў сітуацыі, уведзены ў зман. Яны выбралі тэрмін «сацыялістычная рыначная эканоміка» (дарэчы, ніхто не ведае, што гэта такое) і перакананы, што рынак сумяшчальны з размеркавальнай сістэмай. Не выключаю, што яны шчыра шукаюць ісціну, але, на жаль, не там, дзе трэба. І што яшчэ горш, знаходзячыся ў палоне ўласных ілюзій, ненаўмысна падманваюць людзей, якія не валодаюць дастатковымі ведамі ў гэтай галіне.

**— Якая ж ваша пазіцыя адносна рэформ? Вы за радыкальныя пераўтварэнні?**

— Я прыхільнік хуткіх і рашучых дзеянняў. Але ў гэты пераходны перыяд, які перажывае цяпер рэспубліка, спешка на шляху да дасягнення поўнай самастойнасці, да плюралізму ў плане форм уласнасці, форм гаспадарання на зямлі і г. д. толькі нашкодзіць. Перш за ўсё, неабходна змяніць мысленне вельмі шырокіх мас насельніцтва. Таму наша ўмеранасць у плане дзяржаўных пераўтварэнняў вымушаная.

**— Як ідзе прыватызацыя ў Беларусі?**

— Мы яе прыпынілі да прыняцця адпаведнага закона, заслухаўшы справаздачу выконваючага абавязкі Генеральнага пракурора рэспублікі. У сваім дакладзе ён прывёў столькі фактаў прысваення маёмасці на аснове «сырых» нарматыўных актаў, распрацаваных Саветам Міністраў, што не спыніць гэты грабеж — загубіць саму ідэю прыватызацыі. Закон аб прыватызацыі мы будзем разглядаць на цяперашняй сесіі парламента.

**— У вас няма прыватнай уласнасці на зямлю. Гэта таксама тармозіць рэформы?**

— Канцэптуальна ёсць. У пер-

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ЯК ГУЧЫЦЬ ВОСЕНЬ?

Вельмі рана мы вырашылі падпарадкаваць сваё жыццё зіме. Не глядзіце, што снег адбіў ахвоту да пешых прагулак па вуліцах Мінска, не думайце, што паветра ўсё больш павявае холадам. Лепш паслухайце! Восень падаравала вам на развітанне свае лепшыя мелодыі.

«Беларуская музычная восень», цяпер міжнародны фестываль мастацтва, пачалася. Пачалася беларускай музыкай — у канцэртнай зале філармоніі прагучала сімфонія Уладзіміра Кандрусевіча «Плач перапёлкі». У аснове яе стварэння — раманы Івана Чыгрынава «Плач перапёлкі», «Апраўданне крыві», «Свае і чужыя», а таксама экранізацыя гэтых твораў І. Дабралюбавым.

У праграме фестывалю шмат цікавых сустрэч. Адкрываць яго выпала славутаму маэстра Святаславу Рыхтару. Тыя, каму пашчасціла трапіць на гэты канцэрт, нягледзячы на ўсе адміністрацыйныя перашкоды і адсутнасць білетаў у касах, атрымалі сапраўдную асалоду, слухаючы творы Шапэна і Скрабіна.

Музыка вырвалася з-пад трапяткіх пальцаў, каб вы адчулі яе сэнс, непадуладны ніякім словам. Гучыць Музыка. Іграе Рыхтар...

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

### СУСТРЭЧА З МУЗАЙ РЫХТАРА

Да пачатку канцэрта заставалася пяць хвілін. Сотні аматараў музыкі чакалі Святаслава Рыхтара. Зала філармоніі была перапоўнена святлом, цеплынёй і святочным настроем. Трапіць сюды, відаць, пашанцавала не ўсім жадаючым, бо ўжо на далёкіх подступах да будынка людзі пыталі пра лішні білецік. Вось-вось на сцэну выйдзе вялікі маэстра, і таму я нацэліў туды фотаапарат. Да мяне падбегла ўсхваляваная жанчына: «Хутчэй хавайце сваю стрэльбу!»

«А што здарылася?»— пытаюся.

«А хіба вы не ведаеце, што Святаслаў Рыхтар не любіць фатаграфавацца, і калі ён убачыць ваш фотаапарат, дык адмовіцца даваць канцэрт. І сотні людзей, якія прыйшлі ў гэтую залу, не пачуюць вялікага музыканта».

«Але ж у мяне ёсць заданне рэдакцыі», — адказваю.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

ЗЛАЧЫННАСЦЬ

## «101-ы кіламетр»

### БАРЫСАЎСКІ РАЁН ПРАЦЯГВАЕ ЗАЙМАЦЬ ПЕРШЫЯ РАДКІ Ў СПІСЕ САМЫХ «ЗЛАЧЫННЫХ» У РЭСПУБЛІЦЫ

**Што падзагаловак не ёсць проста мастацкае перабольшанне, сведчу сам. У аўтобусе ў мяне ўкралі пачак «Астры». Так стала крыўдна (тым больш, што справа адбывалася пасля аб'яўлення манаполіі дзяржавы на продаж тытунёвых вырабаў). Праўда, не гэта з'явілася першапрычынай жадання пазнаёміцца са злачынным светам раёна, а такая вось лічбачка: на сённяшні дзень на 10 тысяч насельніцтва зарэгістравана больш чым 107 злачынстваў. Не ведаю, з чым параўнаць, а прасцей так: нідзе ў рэспубліцы такога няма. Свайго роду феномен. Унікум.**

Адкуль пачалося — на гэты конт ёсць розныя меркаванні. Напрыклад, такая версія. Ледзь не да канца 50-х гадоў Барысаў быў славутым «101-м кіламетрам». Сюды высылалі індывідаў, у лаяльнасці якіх улада моцна сумнявалася. Перш за ўсё тых, хто меў «ходкі», г. зн. адседзеў у лагеры. Многія тут жа і аселі пасля, абзавяліся сем'ямі; некаторыя, кажучы міліцэйскай мовай, сталі на шлях выпраўлення, «завязалі». Іншым проста надакучыла блатная рамантыка. Але лагер з памяці не вытравіш — раз-пораз прарывалася. Была такая атмасфера, такое наваколле — напаўблатное, ці што. Тым больш, у «нелаяльных» татаў нарадзіліся дзеці, а яблык ад яблыні, як вядома... Словам, так глядзіць на праблему начальнік Барысаўскага РАУС Юрый Яфімчык.

З адносна спакойнага Салігорскага раёна яго перавялі сюды 10 гадоў назад. З таго часу спакойнае жыццё для яго скончылася. «Застой», ці перабудова, ці «постперабудова», ці пераход да рынку, ці падрыхтоўка да гэтага, — розніцы для Юрыя Сяргеевіча асаблівай не было. Кожны год — рэкордна высокі ўзровень злачыннасці.

Сёлета, уласна, тое ж самае, адрозненне толькі ў адным: летась за 9 месяцаў было ўчынена 470 злачынстваў, цяпер — 583. Крымінальных злачынстваў стала больш на 31,1 працэнта.

Злачыннасць — яна, як і чалавек, мяняецца ў залежнасці ад абставін. Кралі заўсёды, заўсёды рабавалі і забівалі за грошы ці рэчы. Сёння такіх выпадкаў — 80 працэнтаў ад агульнай колькасці. Інакш кажучы, крадуць літаральна ўсё: ад старой рыдлёўкі да прэзерватываў.

**АПЕРАТЫЎНАЯ ЗВОДКА**
**Невядомы залез у памяшканне паліклінікі № 2, дзе ўкраў тэлевізар «Гарызонт-Ц 412», калькулятар, 2 тэлефонныя апараты, электрачайнік, 50 прэзерватываў замежнай вытворчасці і 400 —айчыннай.**

У нас даўно не кралі ад безвыходнасці. Прыкладна гадоў сорак ужо. На вялікі жаль, тэндэнцыя аднаўляецца, што лішні раз пацвярджае —гісторыя развіваецца па спіралі.

Падпалкоўнік Яфімчык — міліцыянер, і гэтым усё сказана. У той жа час — ён чалавек. Як міліцыянер ён ловіць зладзеяў, добра разумеючы, што калгаснік, які аднёс дадому мяшок камбікорму — усё ж такі злачынца. Як чалавек, гэтак жа выдатна разумее: той калгаснік крадзе вымушана, а не таму, што ён такі нахабны, страціў пачуццё меры...

У яго зарплата — горкія слёзы, ды і тую могуць даць, а могуць і не. Жыццё зведзена да найпрасцейшай формулы: бог дасць дзень — бог дасць і ежу. Купіць халадзільнік ці тэлевізар, мэблю ці веласіпед — не-маг-чы-ма. Пражыць самому і сям'і, пракарміць жывёлу, каб яна потым цябе пракарміла — толькі тое і застаецца. Купіць нельга. Украсці? Гэта называецца — карыслівае злачынства.

Іх саджаюць. І будуць саджаць. Звычайна суды ў такіх выпадках бываюць суровыя: амаль заўсёды — пазбаўленне волі і калонія. Зрэдку — умоўнае пакаранне ці будоўлі народнай гаспадаркі.

Расказваюць пра актыўнага салдаціка, які да «дэмбеля» рыхтаваўся даволі своеасабліва. Па дачах, гаражах, паграбах ён краў розныя карысныя рэчы накшталт плотніцкага, такарнага, будаўнічага інструменту, магнітолаў, аўтазапчастак, колаў, — словам, што трапляла пад руку. Інструмент гаспадарлівы баец прыхоўваў, астатняе збываў. За ім налічылі больш як 20 крадзяжоў. А калі затрымалі, дапрасілі, і задалі звычайнае пытанне: «Навошта?», салдацік шчыра прызнаўся: «Прыйшоўшы з арміі, я пабудаваў бы хату. А дзе інструмент возьмеш?» Смяяцца ці плакаць?

(Заканчэнне на 2-й стар.).

## НОВЫЯ КАДРЫ ДЛЯ ПАРЛАМЕНТА

**Аб рабоце над праектам новай навучальнай установы — Акадэміі парламенцкай культуры — паведаміў нядаўна Саюз прадпрымальнікаў Беларусі.**

**Мяркуецца, што гэта вышэйшая прыватная навучальная ўстанова закрытага тыпу будзе рыхтаваць прафесіянальных лабістаў і эканамістаў. У ёй змогуць атрымаць адукацыю асобы, якія ўжо маюць дыплом журналіста, філосафа, эканаміста або сацыёлага. Прыём ва ўстанову без экзаменаў, па сістэме тэстаў. Навучанне — платнае. Прафесія, якую атрымаюць выпускнікі, будзе называцца «сакратар членаў парламента».**

**— Плануецца стажыроўка студэнтаў акадэміі ў грамадска-палітычных групіроўках і партыях за мяжой. У гэтую навучальную ўстанову змогуць паступіць таксама замежныя грамадзяне. Такім чынам, яны атрымаюць прафесіянальныя веды аб палітычнай сістэме Беларусі, — сказаў прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў Уладзімір Карагін.**

**Таццяна ШЧЭБЕТ.**
**(БелаПАН).**

## У барацьбе за прыватызацыю ў посткамуністычных грамадствах, лібералы усіх краін, яднайцеся!

Тры дні ў Мінску працавала міжнародная канферэнцыя «Эканамічныя рэформы ў посткамуністычным грамадстве: ліберальны выбар». Мэтай канферэнцыі ставіліся «актывізацыя ліберальнай думкі» ў рэспубліцы, устанаўленне сувязей з лібераламі іншых краін, «абмеркаванне магчымасцей і вопыту прыкладання ліберальных прынцыпаў, які маецца пры правядзенні эканамічных пераўтварэнняў у посткамуністычных грамадствах». Арганізатары канферэнцыі — Аб'яднаная дэмакратычная партыя Беларусі, Асацыяцыя маладых палітычных дзеячаў Беларусі, Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў, Саюз прадпрымальнікаў рэспублікі і Беларускі фонд фінансавай падтрымкі прадпрымальнікаў. У яе рабоце удзельнічалі вучоныя, палітыкі, прадстаўнікі дзелавых колаў Расіі, Літвы, Украіны, Польшчы, Германіі, Венгрыі і іншых краін.

**Наш карэспандэнт узяў кароткае інтэрв'ю ў старшыні Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі А. ДАБРАВОЛЬСКАГА.**

— Здаецца, што эканамічныя рэформы ў Беларусі праходзяць вельмі марудна. Не робіцца ніякіх відавочных крокаў. Гэта, магчыма, і нежаданне пераўтварэнняў ва ўрадавых структурах.

І яшчэ: вопыт усходнееўрапейскіх краін, а таксама Расіі, Украіны вельмі часта невядомы. Недастатковыя кантакты паміж вучонымі, палітыкамі, прадпрымальнікамі. Слаба абмяркоўваюц-

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## Клятву Гіпакрата яшчэ не прадалі. Але да гэтага ідзе

### МЕДЫЦЫНА ТАКСАМА НЕ ПАЗБЕГЛА РЫНАЧНАГА СІНДРОМУ

**Сказаць, што наша медыцына бедная, як царкоўная мыш,— гэта ўсё роўна, што праспяваць класічную песеньку: «У кошкі чатыры лапы і адзін хвост». Ці сказаць, што ў дзятла доўгая дзюба. Карацей кажучы, тут усё відавочна. Тым больш дрэннай сенсацыяй здаюцца вынікі праверкі выкарыстання бюджэтных сродкаў Міністэрствам аховы здароўя. Я адразу падкрэслю: гутарка ідзе не аб радавых медыках, у якіх 100 чалавек на прыёме штодзень і жабрацкая зарплата. Мы закранём, так сказаць, вышэйшыя сферы. Хоць, канешне, хвароба анархізму і ўсёдазволенасці ў той ці іншай меры ахапіла і пралетарскія «нізы».**

**1.**

Чытаю «Народную газету» за 17 лістапада. Там—падборка пісьмаў на тэмы медыцыны. Рэспубліканскі камітэт прафсаюза работнікаў аховы здароўя патрабуе: «Павялічыць аб'ём бюджэтных сродкаў у новым годзе на ахову здароўя да 9—10 працэнтаў ад нацыянальнага даходу». Безумоўна, справядліва. Адзначу: у мінулым годзе на медыцыну было выдзелена толькі 5 працэнтаў ад нацыянальнага даходу. Так што...

Так што, не зусім зразумелымі здаюцца некаторыя факты. Па разліках НДІ аховы мацярынства і дзяцінства, на навуковыя распрацоўкі неабходна было 16,8 мільёна рублёў. Міністэрства мела некалькі іншае меркаванне і выдзеліла 23,4 мільёна. Вынік: на рахунку НДІ зараз знаходзіцца 14,8 мільёна рублёў без усякага руху.

Аналагічны выпадак у НДІ спадчынных і прыроджаных захворванняў, толькі што лічбы розныя: тут на рахунку інстытута асела 6,5 мільёна рублёў.

Ну добра, будзем лічыць гэта «кветачкамі», не ўкралі ж гэтыя грошы ў рэшце рэшт. Скажам так: злы жарт сыграла чыста савецкае імкненне прасіць больш, чым трэба.

Растуць і «ягадкі». Дзяржава паклапацілася пра нас і санаторыю «Баравое» (в. Нарач) падкінула амаль 3 мільёны рублёў на тое, каб зрабіць пуцёўкі больш таннымі. Санаторый паклапаціўся, у сваю чаргу, пра сябе. Быў куплены мікрааўтобус—513,8 тысячы рублёў, а таксама мазут і ГЗМ—951,2 тысячы. Пуцёўкі, я думаю, больш таннымі не сталі.

Ці можа так быць: міністэрства заключае дагавор з вылічальным цэнтрам на нейкую распрацоўку і авансам пералічвае 300 тысяч. Цэнтр «перадаручае» гэту работу камерцыйнай фірме «Юкон». Фірма яе не робіць. Потым вылічальны цэнтр ператвараецца ў Цэнтр медыцынскіх тэхналогій, дзе грошы працягваюць паспяхова ляжаць. Што робіць міністэрства? Абсалютна не хвалюецца.

Паверце, я блізка да сэрца прымаю праблемы медыкаў, бо ўсе мы, як кажуць, пад Богам ходзім. Але як падаткаплацельшчыку мне ўсё гэта, мякка кажучы, незразумела.

**2.**

Нядаўна расказалі пра такі выпадак. Чалавеку стала дрэнна з сэрцам, выклікалі «хуткую». А ўкол зрабіць не было чым. Не было лекаў. Шпрыц быў, а лекаў не было...

30 сакавіка г. г. Саўмін прыняў пастанову № 175 «Аб неадкладных мерах па забеспячэнню насельніцтва Рэспублікі Беларусь лекавымі прэпаратамі і вырабамі медыцынскага прызначэння ў 1992 годзе». Меркавалася зрабіць так; міністэрству рэсурсаў з рэспубліканскага фонду стабілізацыі (святая святых!) выдзяляецца матэрыяльна-тэхнічных рэсурсаў на 80 мільёнаў долараў—для рэалізацыі іх за мяжой і закупкі там жа медыкаментаў.

Чатыры ведамствы мелі да гэтага адносіны: Міністэрства аховы здароўя, Дзяржкамітэт па эканоміцы і планаванню, Мінрэсурсаў і Дзяржкамітэт па знешніх эканамічных сувязях. На 1 лістапада г. г., тым не менш, «магутная кучка» здолела заключыць кантрактаў толькі на 22,7 мільёна долараў.

«Даручылі», «выдзелілі»... На практыцы гэта выглядае так: МТЗ пастаўляе 1.000 трактароў, «Беларуськалій» — некалькі тысяч тон угнаенняў і г. д. А яны ўвогуле не паставілі, ці паставілі значна менш. У выніку ёсць пастанова, рэсурсы, выканаўцы—няма толькі лекаў. Зразумела, адказнасці з Міністэрства аховы здароўя, якое, здавалася б, кроўна зацікаўлена ў гэтых самых леках, ніхто не здымае. Але ў гэтым выпадку яе падзяляе, апрача названых ведамстваў, яшчэ і Мінфін. Столькі паважаных арганізацый і ўстаноў, такія паважаныя людзі, а дзіця (інакш кажучы, мы з вамі) засталося без нагляду. Бегаем, высунуўшы языкі, па аптэках, дастаём таблеткі за шалёныя грошы, калі яшчэ можна дастаць. Далібог, хоць нейкае маральнае суцяшэнне—ведаем цяпер, хто вінаваты.

Яшчэ аб леках. Нейкі час здавалася, што медыцына пазбегне камерцыйнай рэвалюцыі, —такое было ўражанне. На жаль, яно аказалася памылковым. Як вы памятаеце (гл. вышэй), за замежныя лекі было вырашана разлічвацца рэсурсамі. У прыватнасці, мінеральнымі ўгнаеннямі. Натуральна, само міністэрства гандляваць імі не збіралася. Але ўсё роўна не зусім зразумела, чаму частка іх трапіла ў фірмы «Белмедінгандаль» і «Біямед», некалі створаныя, дарэчы, пры ўдзеле міністэрства. Як бы ні было, а, скажам, «Белмедінгандаль» 4.190 тон угнаенняў прадаў у Польшчы за долары. І што? Закупіў: шампунь, курткі скураныя, шкарпэткі, майкі, штаны і шмат іншых карысных рэчаў, якія да медыцыны не маюць ніякіх адносін. «Біямед» прадаў 1.000 тон, купіў амаль тое ж, ну і крышачку лекаў.

На 20 тысяч долараў, праўда, закупілі інсуліну. Па неправераных даных, ён апынуўся ў адной з рэспублік Закаўказзя.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## Ад Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь з глыбокім жалем паведамляе, што 22 лістапада 1992 года на 50-м годзе жыцця пасля цяжкай і працяглай хваробы памёр народны дэпутат Рэспублікі Беларусь ДУБЫНІН Віктар Пятровіч.**

